# Самапомач Гатарогтас

№ 7 (60).
Год VI.
Вільня. 25-га Траўня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.


# Калі-б Джымала быў Беларусам

Хто такі быў Джымала (Drzymała) і чым праславіўся, — аб гэтым ведаюць нашы чытачы з папярэдняга нумару „Самапомачы". Для тых-жа, да каторых успомнены нумар „Самапомачы" не дайшоў, паўтараем, што Джымала быў бедным польскім селянінам з Пазнаншчыны. Ня могучы ад чужых яму прускіх уладаў дастаць дазвол на пабудаваньне на сваім куску зямлі хаты, ён праз чатыры гады, зіму-лета жыў у цыганскай будзе, але ніўкі свае чужынцам, якія сюлілі вялікія нават грошы, не прадаў. Цярпеў за гэта Джымала бязконцыя штрафы, адседкі, сэквэстры з боку ўладаў чужых, нямецкіх і — што асабліва — незразуменьне з боку сваіх: нават праўдзівае імя ягонае „Міхал" было заменена на „Вайцех",*) а мядаль за заслугі палажылі яму толькі на труну. Але нас цікавіць сягоньня што іншае: **што рабіў-бы Джымала, калі-б жыў і працаваў** не ў Пазнаншчыне на пераломе XIX і XX стагодзьдзяў, а напр. **нейдзе каля Уселюба, у Наваградзкім павеце, у 1937 г.** і што-б такога Джымалу-беларуса спаткала?

Пытаньне такое не аднаму пакажыцца дзіўным, а можа нават і небясьпечным. Але мы пры ём усё-ж затрымацца папрабуем, асьцярожна, з цэлай сьведамасьцю адказнасьці.

Наўперад два сапраўдныя здарэньні:

Нашы чытачы памятаюць, што сюлілі нашаму селяніну і і чаго дамагаліся „землярobы з вышэйшай адукацыяй" на зьезьдзе 2—3 сакавіка сёл. ў Варшаве. А вось і другі выпадак, „бліжэйшы":

„Крэсовыя" абшарнікі, на зьезьдзе ў Вільні дня 25 красавіка сёл., між іншым, пастанавілі, што:

„...абавязкам кожнага абшарніка („ziemianina") ёсьць імкнуцца да абсалютнага выдзяленьня („wyeliminowania") чужых элемэнтаў і ўплываў ва ўласных варстатах працы".

У штодзеннай мове гэта знача, што названы Зьезд загадаў і наказаў абшарнікам, каб у сваіх маёнтках і наагул у тых гаспадарскіх арганізацыях, дзе чуюцца гаспадарамі (а знача ў кожнай, куды яны належаць), каб давалі працу толькі тым людзям, якія ўважаюць сябе ці і сапраўды зьяўляюцца палякамі. А куды дзецца работніку-беларусу?

Праўда, вышменаваная пастанова абшарніцкай арганізацыі ня ёсьць агульна абавязуючым законам, так як гэта было напр. з прускім законам аб асадніцтве з 1904 г. Але які закон сягоньня загадае польскаму абшарніку браць на работу беларуса, а не аднапляменца-паляка? Або якім законам мае бараніцца беларус, калі-б яго захацеў нехта „вы-элімінаваць" затое толькі, што ён беларусам нарадзіўся?

Скажа мо' нехта, што пастанова-пастановай, а жыцьцё-жыцьцём. А як тады вытлумачыць гэткі аўтэнтычны выпадак з Наваградчыны (падаём даслоўна з пісьма ў рэдакцыю):

„...Абшарнік К., распрадаючы двор Кр., стойка жадае, побач з непамерна высокай цаной, каб купец быў палякам, а найменш — каталіком; тлумача пры гэтым, што на беларуса ці праваслаўнага ня можна зрабіць дакумэнтаў".

Гэта знача, што ўспомненыя пастановы „землярobаў з вышэйшай адукацыяй" у Варшаве і „крэсовых" абшарнікаў у Вільні знайшлі ўжо выканаўца. Калі-б такіх выканаўцаў знайшлося ў нас больш, дык для беларускага селяніна вытварылася-б такая сытуацыя: работы ў дварох і наагул у польска-абшарніцкіх прадпрыемствах яму даць заракаюцца, а зямлі таксама не прадаюць.

Што пры гэткіх варунках рабіў-бы Джымала-беларус і чаго ён за гэта дачакаўся-б,— хай адкажа сам чытач, добра прадумаўшы ўсё тое, што мы аб гэтай справе ўжо пісалі і што кожны бача штодзень навкруг сябе. Падскажам толькі, што ў нашых варунках Джымала „зубамі-рукамі" трымаўся-б за родны кусок зямлі; тудою шлях да лепшай долі і для селяніна-беларуса.

---

*) За польскімі газэтамі падала гэта імя й „Самапомач", што гэтым адклікаем і папраўляем — Рэд.

## Закон аб шкодах у лесе

Новы закон аб шкодах у лесе між іншым пастанаўляе, што:

Хто ў чужым лесе вырубае ці забярэ ўжо вырубанае дрэва, той будзе караны арыштам да 3-ох месяцаў і штрафам да 3,000 зл.—Хто: вырубае ў чужым лесе сукі, карэньне ці карчы, іх зьбірае, карчуе пні, той караны будзе арыштам да 2 тыдняў і штрафам да 500 зл. Хто купляе ўсё гэта, хоць знае, што паходзіць яно з крадзежы, той будзе караны арыштам да 3 месяцаў і штрафам да 3,000 зл., а хто толькі можа дагадывацца, што тавар паходзіць з крадзежы, той будзе караны арыштам да 2 тыдняў і штрафам да 500 зл.

Хто ў чужым лесе дабывае смалу, бярозавы сок, абрывае шышкі, зьдзірае кару, нарэзвае дрэва або йнакш яго шкодзіць, той будзе штрафавацца да 100 зл.—Хто ў чужым лесе зьбірае кару, трэскі, дзярно, траву, верас, мох, падсьцілку, шышкі, грыбы, ягады, плады, зёлкі, той будзе штрафавацца да 10 зл. Хто ў чужым лесе пасе жывёлу ці птушак, той можа быць аштрафаваны да 250 зл. і пакараны арыштам да 1 тыдня. Кто ў чужым лесе капае пясок, вапну, жвір, гліну або торф; хто звозіць у чужы лес каменьне, сьмяцьцё, падліну ці адпадкі; хто нішчыць у чужым лесе дрэўцы ці мурашнікі; хто пераходзіць, пераяжджае ці пераганяе праз забароненае месца ў чужым лесе гаспадарскую жывёлу ці птушку, —той можна быць пакараны штрафам да 100 зл.

У выпадках пакражы, акрамя штрафу трэба йшчэ вынагарадзіць падвойную вартасьць дрэва, пнёў, сукоў, устаноўленую на падставе цэньніка казённых лясоў. За пашкоджаньне лесу жывёлай ці за пасьбу прызнаецца вынагараджэньне: 1 зл. ад кожнай штукі жывёлы і 10 грашоў ад кожнай птушкі. — Няма праступку, калі з лесу бярэцца палена ці сук на тое, каб задаволіць патрэбы, якія паўсталі ў дарозе, неспадзявана, напр. зламалася аглобля ці нешта падобнае.

У западозраных асоб паліцыя, з даручэньня ўлады, можа правесьці рэвізію. У наглых выпадках паліцыя можа рабіць рэвізію сама, толькі праз 48 гадзін (двое сутак) павінна пастарацца і даручыць пацьверджаньне судовых уладаў. У асоб падозраных з крадзежы ў казённым лесе можа рабіць рэвізію лясная стража. — Ад карных прысудаў у справах лясной пакражы трэба адклікацца ў Суд Акружны.

**Ці ў Вашай ваколіцы ёсьць яшчэ людзі, якія ня ведаюць аб „Самапомачы“? Чаму-ж Вы ім яе не пакажаце і ня вытлумачаце як і дзе яе выпісаць?**

## Пляценьне кошыкаў у Вялейшчыне.

Чым больш дробяцца гаспадаркі, тым большае значэньне здабываюць сабе спэцыялізацыя паасобных галін земляробства (лён—ткацтва) і гэтак званы кустарны промысел. Гэткім „промыслам“ на абшары макравай Вялейшчыны становіцца гадаваньне кошыкарскай лазы і пляценьне з яе кошыкаў. Тавар аказаўся так ходкім, што „прамыслоўцы“ ня могуць сягоньня пасьпець здаволіць наплываючых заказаў. А заказы прыходзяць ня толькі краёвыя, але і з заграніцы: з Англіі і нават з Амэрыкі.

На перашкодзе тымчасам стаяць дзьве справы: не хапае добра вывучаных майстроў, якія навучылі-б усіх тутэйшых жыхароў рабіць кошыкі і—ня лёгка гэта паверыць — сам сырэц, знача—вербалозіну прыходзіцца прывозіць аж з далёкай Галіччыны (Руднік над Санам). Справай падгатоўкі майстроў занялася прыватная школа Шчуцінскага ў Валейцы, на што атрымала ўжо грашавую дапамогу. Школа існуе ўжо колькі гадоў. Цяпер мае два з лішнім дзесяткі вучняў, якія сёлета ў чэрвені ўжо станецца самадзейнымі майстрамі. Дальшыя выпускі гэтай школы прыгатаўляюцца.

Ня вырашанай тымчасам ёсьць справа гадаваньня на месцы патрэбнай вербалозіны. Гэтым мусяць у собскім інтарэсе зацікавіцца самі гаспадары-земляробы, у якіх поўна

Інж. Ад. Клімовіч.

## Асновы земляробскай эканомікі.

5)

**Капітал жывёлы** Капітал жывёлы, інакш ведамы як інвэнтар жывы, так як і капітал расьлінаў ёсьць паказчыкам сілы ў гаспадарцы. Гадуецца жывіна ў гаспадарцы дзеля працы або дзеля ўжытку. Працоўная жывіна перад усім дае сваю с і л у і акрамя таго гной ды такія пасьмертныя прадукты, як мяса, скура, тук. Ужытковая жывіна мае тую сумасьць, што пераменьвае менш вартасныя гаспадарскія прадукты, як сена, салома й інш. у прадукты больш вартасныя, як малако, мяса, тук, воўна, скура і г. д.

Працоўнай жывінай у большых гаспадарках зьяўляюцца коні, валы, мулы, а ў меншых—каровы. Пры выбары працоўнай жывіны трэба мець на воку, што валы маюць больш сілы, але затое вальней працуюць. Абрахунак выказаў, што за цэлы гаспадарскі год мэханічная праца 3-ох коняў раўняецца такой працы 4-ох валоў. Конь у гаспадарцы ў год працуе ў сярэднім 275 дзён, а вол толькі 225 дзён. Пры аблічаньні працадзён асобных польных культураў рахуюць

| | | |
|---|---|---|
| на 1 га пашных расьлін | 10 | параконных працоўн. дзён |
| „ „ „ яравога збожжа | 14 | „ „ „ |
| „ „ „ азімага збожжа | 16 | „ „ „ |
| „ „ „ акопнінаў | 20-25 | „ „ „ |

Пры абліčаньні ўжыткоўнай жывіны, трэба браць пад увагу, колькі ёсьць у гаспадарцы пашы і падсьцілкі, па адлічэньні патрэбных запасаў для жывіны працоўнай. Рахуюць пры гэтым, што адна вялікая штука жывіны (500 клг.) патрабуе:

ў дзень 12 клг, сушы*) на корм і
ў „ 3 „ „ на падсьцілку.

Напр: 1 вялікая штука (500 клг.) патрабуе
1. у пашы у дзень 12 клг. сушы, за год =12×365=4.380 клг.
2. у падсьцілцы „ 3 „ „ „ „ 3×365=1.095 „
Разам у дзень 15 клг. сушы, за год=15×365=5.475 клг.

Калі ў пашы і падсьцілцы выраблена у гаспадарцы ёсьць 27.500 клг. сушы, дык па адлічэньні 5.500 клг. сушы на адну штуку жывіны працоўнай, астаецца йшчэ (27.500—5.500)=22.000 клг. сушы для жывіны ўжыткоўнай. Гэтага астатку хопіць на 4 вялікія штукі, як гэта можна лёгка праканацца з абрахунку (22·000 : 5.500=4).

Уладаньне капіталам жывіны спалучана з такімі бягучымі выдаткамі, як п р а ц э н т, а м о р т ы з а ц ы я і с т р а х о ў к а. Капітал уложаны у жывіну апрацэнтоўвуецца **5**-ма ад 100.

Амортызуецца капітал жывіны ад таго мамэнту, як вартасьць гэтае жывіны пачынае абніжацца.

Напр. конь пачынае траціць на вартасьці па 10-тым годзе і становіцца няпрыдатным на ўжытку ўжо па 20 годзе. Знача, парадак аблічэньня гадавога ўпадку цаны ягонай будзе гэткі:

$$\frac{450-50}{10} = \frac{400}{10} = \mathbf{40\ зл.}$$

Інакш кажучы ад 10-га году вартасьць каня ў год абніжацца будзе кожны год на **40** зл.

*) суш у пашы, гэта ўсе ейныя складнікі, акрамя вады, якой напр. у сухім сене ёсьць каля 16 проц.

# Што, як і калі рабіць?

*(Землябробская тэхніка).*

## Спадчынасьць у гадоўлі.

Кожны гаспадар ведае, што патомства жывёлы з самага толькі вонкавага выгляду часта бывае падобным да бацькоў. Здараецца пры гэтым, што адно з бацькоў вызначаецца асабліваю здольнасьцю пераліваньня сваіх свомасьцяў на патомства. Асабліва часта вызначаюцца гэтым бугаі, жарабцы, кнуры, якія аднак пераліваюць на патомства свае свомасьці як добрыя так і благія.

Адны з гэтых свомасьцяў можна лёгка заўважыць вокам, а другія бываюць укрытыя. Лёгка напр. сьцьвердзіць масьць, цяжэй — наагул будову і вельмі цяжка сьцьвердзіць напр. малочныя здольнасьці цяляці. А некаторых свомасьцяў наагул ня можна сьцьвердзіць, напр. недахопаў у будове нутраных ворганаў, якія зусім схаваны прад людзкімі вачыма. І здараецца, што жарабё, цялё ці парасё жыве і разьвіваецца да пэўнага часу, а пасьля раптам гіне. Шукаюць тады прычын у розных прыпадках, ударах, кепскім аджыўляньні і г. д. Тымчасам, калі прыгледзіцца бліжэй, дык акажыцца, што прычыною былі хвараблівыя зьмены гэтых нутраных ворганаў, няздольных да жыцьця. А зьмены гэтыя зусім ня былі выпадковыя: іх унасьледавала маладая жывёла па адным з сваіх бацькоў.

Відаць з гэтага, як важным ёсьць адпаведны старанны выбар жывёлы да гадоўлі. Вонкавы выгляд можа быць бяз закіду, а тымчасам можа яна мець асаблівыя здольнасьці да пераліваньня благіх свомасьцяў, ад якіх маладая жывёла становіцца зусім няздольнай да жыцьця. Гэтыя свомасьці ў племнай жывёлы наперад можа адгадаць толькі чалавек з вялікай гадаўлянай практыкай.

Калі прыймем пад увагу, што пры выбары племных штук жывёлы ў нас найчасьцей зьвяртаюць увагу толькі на тое, як гэта жывёла вялікая, дык ясна, што ў такой гадоўлі „на сьлепа“ здараюцца й здарацца будуць усякія „няшчасьці“. І тут якраз крыецца прычына тых шматлікіх нараканьняў, што аднаму гадоўля быццам „вязе“, а другому — „не вязе“.

Сягоньня, калі цана ўтрыманьня жывёлы падыймаецца з кожным днём, кожнаму гадаўцу павінна залежыць на тым, каб гэта жывёла сапраўды мела якуюсь гадаўляную вартасьць, бо кошт утрыманьня той самы. Дабіцца гэтага можна толькі шляхам папраўкі патомства, павялічэньня ягоных свомасьцяў добрых і касаваньнем свомасьцяў благіх. Дасягнем-жа гэта выбарам гадаўляных штук (бацькоў), пры якім трэба кіравацца ня гэтульмі выглядам вонкавым, колькі нутраным, які аднак можа ацаніць толькі асьвечаны гадавельнік-практык.

Практычная навука з усяго гэтага такая: ня ўжываць стаднікаў няведамага паходжаньня і не шкадаваць коштаў на дастаўленьне свае жывёлы да стадніка добрага. Кіравацца пры гэтым трэба ня гэтулькі зрокам, колькі радай разумных людзей, якія пасьвячаюць гэтаму шмат часу і працы.



ёсьць макравых „няўжыткаў,“ на каторых вербалозіна добра расьце.

Аб пасадцы вербалозных плянтацый трэба думаць увосені. Мы з свайго боку пастараемся ў пару даць дакладнае апісаньне, як закладаць, гадаваць і даглядаць такія плянтацыі. Сягоньня-ж толькі зазначым, што справа гэта ў нашых кліматычных і гаспадарскіх умовах заслугоўвае на пільную ўвагу. Залажэньне такой плянтацыі на пачатак, праўда, вымагае пэўных коштаў, якія аднак хутка вяртаюцца. А трэба ведаць, што раз засаджаную плянтацыю можна быццам выкарыстоўваць (вырэзываць) праз 30 гадоў.

На дадатак зазначыць трэба, што раньні цьвет лазы ёсьць такжа не найгоршым мёдадаем.

с. с.

Страхуецца жывіна процiў такіх неспадзеваных стратаў, як здыханьне, канешнае дарэзваньне, цяленьне (жарабеньне) і кастрацыя (лягчэньне, пакладаньне), а часам пажар. Страхавая складка на забесьпячэньне жывіны ад здыханьня бывае даволі рознаякая ад $1/4$ ад 4 проц.

Ацэньваецца жывіна найчасьцей паводле вартасьці купле-прадажнай, радзей паводле вартасьці вытворчай і йшчэ радзей паводле вартасьці прыбытковай. Часта раўнуюць вартасьць вытворчую жывіны з вартасьцю куплі, каб праканацца ці выгадней жывіну гадаваць у гаспадарцы ад маленства, ці купляць яе ўжо падросшай.

**Капітал гаспадарскай снасьці і машынаў** Капітал гаспадарскай снасьці і машынаў, інакш ведамы як капітал мёртвага інвэнтара гэта ўся снасьць і машыны, якія ня зужываюцца ад аднаразовага ўжываньня ў гаспадарцы. Капітал гэты сам сабою ня ёсьць самастойнай прадукцыйнай сілай, а толькі ўспамагае, часам аблягчае землябробскую вытворчасьць. Адразу трэба аднак засьцерагчыся, што празмерны, а нават толькі ня ў тым як трэба парадку накупліваны мёртвы інвэнтар, замест успамагчы гаспадарку, моцна яе абцяжвае бягучымі выдаткамі. Спаміж такога інвэнтара асабліва небясьпечнымі бываюць касярня, радзей малатарня, калі яны, не знаходзячы ў гаспадарцы поўнага заняцьця, не працуюць падзённа ў гаспадарках чужых. Кожная гаспадарская снасьць ці машына тады толькі апраўдывае самую сябе, калі яна заступае ці аблягчае людзкую працу, прысьпяшае яе ці ўдасканаляе.

Уладаньне капіталам гаспадарскай снасьці і машын вымагае бягучых выдаткаў. Адны з гэтых выдаткаў абцяжваюць рахунак стала, незалежна ад таго, ці снасьць (машына) ужываецца ці стаіць бяз ужытку. Гэткімі выдаткамі зьяўляюцца: а п р а ц э н т а в а н ь н е, а м о р т ы з а ц ы я, р э м о н т і с т р а х о ў к а. Уложаны ў снасьць і машыны капітал: апрацэнтоўвуецца 6 проц., амортызуецца 5—50 проц. (залежна ад таго, як хутка зношываецца), адлічаецца на рэмонт у год 4—8 проц. і на страхоўку 0.1—0.3 проц. — Акрамя гэтага капітал снасьці і машынаў абцяжваецца йшчэ такімі выдаткамі, як пагонная сіла (электрычны ток, вугаль, турбіна), алееньне (мазаньне), абслуга і г. д.

Зразумелая рэч, што чым большыя бягучыя выдаткі, тым меншы даход з гаспадаркі. Таму трэба набываць толькі снасьць сапраўды патрэбную, магчымую да ўжываньня — простай канструкцыі, моцную, лёгка кіравальную, з выменнымі часьцямі лёгкімі да дастаньня ў найбліжэйшым горадзе ці нават мястэчку; купленую снасьць трэба старанна даглядаць, чысьціць, мазаць, у час папраўляць, а даражэйшыя машыны, якія ў малой гаспадарцы толькі мала ўжываюцца, заўсяды лепш аплаціцца пазычыць.

Ацэньваецца гаспадарская снасьць і машыны паводле вартасьці купле-рынычнай або вытворчай.



## Як ратаваць жывёлу пры надыманьні.

Небясьпека надыманьня ў скаціны, радзей у авечак—у тым, што ў трыбусе іхнім зьбіраецца за шмат газаў, якія напіраюць на лёгкія, або і на мускульную перагародку (diaphragma) паміж жыватом і грудзьмі. Ад гэтага жывёла ня можа „схапіць духу,“ а часам, асабліва калі жывёла кідаецца вобзем, расьпёрты трыбух ці і дыяфрагма лопае, і тады сьмерць наступае адразу.

Так ці гэтак, надыманьне вельмі небясьпечнае і каб ад яго ратавацца, трэба ведаць, калі й чаму газы творацца і як іх з трыбуха выпусьціць.

Вот-жа газы творацца ў трыбусе тады, калі згаладалая жывёла пасецца за расы йшчэ, ці па дажджы або і проста на добра паросшай сачыстай траве, маладой канюшыне, люцэрне, а таксама і калі яе накорміць сапсутай брагай, падгніўшай бульбай, буракамі ці іншай падобнай пашай.

Выпусьціць з трыбуха гэтак набраныя ў ім газы—значыць ураваць жывёлу ад гібелі. Як гэта рабіць?

Ёсьць на гэта два спосабы: **сонда і трокар**





*Сонда ў трыбусе каровы:*

Сонда ўстаўленая няправільна. Сонда ўстаўленая правільна.

Сонда, інакш глытніцавая трубка (папольску rura przełykowa) гэта больш-менш паўтара мэтра доўгая трубка з скручанага ў форме пярсьцёнкаў дроту і абцягненая скурай. Калі гэткую сонду ўставіць абдутай жывёле праз гарлянку (глытніцу) аж у трыбух, дык газы вольным канцом сонды выходзяць вон і ўздуцьцё праходзіць. Прад тым як устаўляць сонду, трэба яе намачыць у чыстай цёплай вадзе, а пасьля намазаць алеем.

Каб уведзеная ў трыбух сонда не запхалася награмаджанай там пашай і вольна праводзіла газы, трэба пярэднія ногі абдутай жывёлы ставіць вышэй задніх, а каб жывёла не перакусіла ўстаўленай сонды, у зубы ейныя ўстаўляецца дзераўляная папярэчка так грубая, як далонь: праз дзюру ў гэтай папярэчцы і ўводзіцца сонда.

Іншай снасьцю да ратаваньня абдутай жывёлы ёсьць трокар, які прадстаўляе сабой асаджанае шыла у футарале, як гэта паказана на далучаным абразку.




*Месца прабіваньня ўздутай каровы.*

Само месца азначана кружочкам. Побач паказаны: А — трокар, В — шыла вынятае з трокару (футаралу).

Калі жывёла абдуваецца, дык у яе падыймаецца перад усім левы бок у мейсцы гэтак званай галадавой ямкі. Калі ў гэтым месцы — на далонь уніз ад паясьніцы і на далонь уперад ад клуба—трокарам укосна прабіць бок і трыбух, пакідаючы ўвесь футарал у ране, а шыла выцягнуць, дык часам з сьвістам, а часам вальней пачнуць праз гэты футарал выходзіць сьмярдзючыя газы. Такое выпусканьне газаў праз трокарную трубку часта трывае 2 гадзіны. А калі газы ўжо больш ня выходзяць, тады трубка трокара асьцярожна выцягваецца, а рана залепліваецца чыстым плястром. Прад прабіваньнем трыбуха трокарам, а таксама і выбраўшы яго з раны трэба старанна заўсяды вычысьціць, а пасьля ўжываньня і намазаць чыстым алеем ці якім іншым нясоленым жырам.

Сонда і трокар гэта канешная снасьць у культурных гадаўляных гаспадарках, Дробныя гаспадары павінны іх купляць прынамся на супалку.

*Др. Ю. З.*

## Поснае малако як паша.

Поснае малако спад цэнтрагонкі можа быць добрай пашай, але ня можа быць заменай поўнага малака як людзкой ядоміны. Малако прайшоўшы праз цэнтрагонку (цэнтрафугу) ня мае ў сабе клустасьці, але мае цэнныя для арганізму жывёлы бялкі, лепшыя ад бялкоў, што знаходзяцца ў такіх пашах расьлінных, як вотрубы, макух і інш. Малочны бялок гэта ўжо гатовы матарыял да будовы жывёлінага цела, а бялок расьлінны йшчэ патрабуе перарабкі.

Кармовую вартасьць поснага (спад цэнтрагонкі) добра знае кожны гаспадар, кормячы ім старэйшых і малодшых цялят, парасят, курэй. Аднак у гаспадарках маючых збыт поўнага малака ў мясцовых малачарнях і атрымоўвуючых назад малако поснае, робіцца часта „завоз“ гэтага поснага малака: няма куды яго падзець і канец. Бяда тым горшая, што **самі** дойныя каровы свайго малака есьці ці піць ня хочуць. Што тады з гэтым малаком рабіць?

Вот-жа практычныя гаспадары, прабуючы ўсё, перапрабавалі і апісалі гэткі спосаб: сухія бурачаныя жмыхі палівалі не вадой, як робіцца звычайна, а посным малаком. Гэткую пашу, падсоленую яшчэ (20 грам каровячай солі на штуку ў дзень) каровы выядалі з вялікім смакам. А дойнасьць пры гэтым не зьмяншалася, хоць за кожныя тры літры поснага малака не дадавалі каровам 1 кілёграма вотрубаў. Значыла-б гэта тое, што замест аднаго кілёграма вотрубаў можна карове даваць 3 літры поснага малака, але не як чыстую малочную пойлу, а як дамешку да сухой пашы іншай. Калі да гэтага параўняць цэны вотрубаў з цэнамі поснага малака, дык станецца ясным, што

кармленьне дойнай каровы абыйдзецца найменш у два разы таней, чым кармленьне вотрубамі.

На беларускіх землях няма цукраварняў, скуль-бы можна было даставаць на месцы сьвежыя бурачаныя жмыхі. Але нічога не перашкаджае, каб папрабаваць посным малаком абліваць напр. сечку ці нешта ў гэтым родзе. Натуральна, ня можна й тут „забыцца“ аб падсольваньні.

Хто гэта зробіць, хай ня трымае ў сакрэце, а падзеліцца сваім досьледам — усёроўна: добрым ці благім, з нашымі чытачамі.

## Хваробы бульбы.

Бульба ў жыцьці гаспадара-земляроба мае вельмі вялікае значэньне, бо зьяўляецца асновай пашы для жывёлы, а для самога чалавека з канешнасьці замяняе нават хлеб. Нажаль, пры нашым малазямельлі займае яна вельмі шмат месца і таму не пазваляе на прадукаваньне іншых больш цэнных акопнінаў, як буракі— цукровыя і пашныя — рэпак і інш. Ня трэба было-б гэтулькі месца займаць бульбай, калі-б ураджай ейны быў у нас большы. З 1 га ў нас ледзь-ледзь зьбіраюць 100 цэнтнараў, тады як у Голяндыі іх зьбіраюць з гэктара 186 цэнтнараў, у Нямеччыне — 160, у Бэльгіі 214 і г. д. А як нізкі ўраджай, дык гаспадар наш, каб мець досыць бульбы, змушаны бывае займаць большы прастор.

Прычыны гэтак нізкіх ураджаяў бульбы могуць быць розныя — благое вырабляньне глебы, беднае ўгнаеньне, няўмелае саджэньне, нядбалы дагляд, благі выбар гатунку і г. д. Няма аднак сумліву, што аднэй з прычын, абніжаючых уражайнасьць бульбы у нас зьяўляюцца розныя хваробы бульбы, каторыя нападаюць на іх, а на каторыя гаспадар не зьвяртае ўвагі, бо... іх ня знае ці недацэньвае. А на гэта зьвяртаць увагу трэба вялікую.

Вялікай небясьпекай для бульбы зьяўляецца бульбяны рак; а далей — кудравасьць, мозаіка, скручваньне лісьця і інш., значэньня якіх чалавек найчасьцей недацэньвае, думаючы, што гэта нічога асаблівага, калі лісьцё бульбы замест быць чыстым, роўным, зялёным, бывае усяляк сплямленым, паскручаным... Усе такія знакі на лісьцёх бульбы азначаюць, што самая бульба хворая, як такая, ня можа даваць вялікіх ураджаяў. Каб аб гэтым навочна пераканацца, трэба зрабіць такую вось пробу.

Адлічыць, скажам, 10 калівaў выразна хворых і гэтулькі-ж калівaў зусім здаровых і выразна іх азначыць. Увосені асобна сабраць бульбіны спад калівaў здаровых і асобна спад калівaў хворых. Зважыўшы адны і другія пабачым, што хворыя калівы далі палову, а можа нават і чэцьверць таго, што далі калівы здаровыя.

Дагэтуляшнія пробы выразна паказалі, што гатункаў бульбы зусім адпорных на ўсе хваробы — няма. Адны толькі гатункі больш адпорныя, а другія — менш. Таму, калі заўважым на сваім полі шмат хворага (сухога, пакручанага, рабога) націва, дык гэта знак, што ўжо трэба канешна зьмяніць дагэтуль гадаваны гатунак і замяніць яго другім, здаровым. Канешна! Ніякае абрабляньне глебы, ніякае гнаеньне тут не паможа так доўга, як доўга будзе благое насеньне. Хто паскупіцца пры набываньні добрага насеньня, той марнуе сваю працу і кошты гнаеньня.

Калі гаспадар ніяк ня можа ўздабыцца на насенную бульбу зусім здаровую, дык хай прынамся загадзя, праз цэлае лета пільна выбірае на сваім полі калівы зусім здаровыя, і спад іх толькі сьпеліць і зьбірае насеньне на год наступны. Гэтак выбраныя на полі калівы трэба азначыць лучынкамі ці малымі калочкамі і ўсё лета пільнаваць, пераглядаючы прынамся раз у тыдзень, каб на лісьцёх не паявіліся нейкія плямы.

Ад гэтага ня можа ніхто адгаварыцца, што ня мае часу ці ня можа.

## Канюшыны і люцэрны.

Канюшыны і люцэрны ад сёлетніх маразоў і вятроў сільна пацярпелі. Весткі, якія надходзяць з дасьледчых станцый, паказваюць, што найгорш паразімавалі канюшыны з насеньня прывезенага з дальшых старон. Люцэрны найлепш утрымаліся амэрыканскія, горш мадзярскія і нямецкія, і найгорш францускія. Дзеля таго, калі хто мяркуе залажыць люцэрнік, дык хай патрэбуе насеньне амэрыканскае.

У шмат выпадках сьцьверджана, што хоць лісьце і надземнае сьцібло люцэрны было вымерзшы, то само падземнае каліва ўцалела і можна думаць, што калі пацяплее, дык яно яшчэ аджыве і будзе расьці далей. А знача не заўсяды можна лічыць прапаўшай тую люцэрну, якая вымерзьне толькі паверсе.

На лёгкіх землях канюшыны пацярпелі значна больш, як на цяжэйшых, асабліва, калі па такой канюшыне пасьвілі жывіну да пазна ўвосені і яна не пасьпела прад зімовымі халадамі належна вырасьці. Дзеля гэтага на лягчэйшых глебах часьцей здарыцца патрэба замяніць канюшыну якой-небудзь іншай расьлінай, напр. сонешнікам, які нармальна зьбіраецца ўжо ў канцы чэрвеня і тады можна на ягоным месцы сеяць яшчэ што іншае.

Вельмі добра так-жа родзіць і трава суданская. На 1 га выходзіць каля 30 клг. насеньня. Сеецца яна радамі, адзін ад другога на 30 см. Расьліна гэта расьце спачатку памалу і таму канешна трэба яе палоць, каб пустазельле яе не заглушыла. Таксама вымагае яна зямлі стала пульхнай і таму трэба яе сеяць радамі, каб магчы працаваць матыкамі. Рады можна рабіць звычайным значнікам, прыгатаваным хатнім спосабам (як вялікія граблі). Насеньне каштуе 1.00—1.40 зл. за 1 кілё, знача на 1 га такога насеньня трэба купіць на 30—42 зл.

Суданская трава дае добрыя 2 пакосы і на лёгкіх землях удаецца зусім добра. Адразу шмат яе сеяць ня трэба — папрабаваць досыць на малым кусочку. Зямлі араць пад суданскую траву ня трэба— хопіць пад яе культыватар ці спружыновая барана накрыж, а пасьля барана звычайная. Асабліва гэта важнае на глебах лёгкіх, якія баяцца прасушэньня.

Сеючы тыя ці іншыя расьліны пасьля прапаўшых канюшын, ня можна забывацца аб патрэбе гнаеньня. Сонешнік вельмі любіць гной хляўны, а як яго няма, дык здаволіцца і гноем штучным. Пад суданскую траву даволі ўгнаеньняў штучных. Тое самае датыча і мешанак стручковых, якія без пагнаеньня так-жа ня родзяць. Калі канюшына зусім не прапала, а толькі парасла вельмі рэдка, дык араць яе ня трэба, а толькі пагнаіць штучным гноем і падсеяць яе травамі, сэрадэляй і г. п.

**Паз.**

## Гадуйма канаплі!

Гадоўля канапель і прыгатаваньне валакна вымагае шмат людзкой работы і таму аплачываецца ўсюды там, дзе ёсьць даволі рук да працы і мала зямлі. Запатрэбаваньне-ж на канаплянае валакно стала расьце і таму гадоўля самых канапель становіцца штораз больш паплатнай.

Канаплі вымагаюць цёплай, багатай у спажыўныя сучасткі і вогкай глебы. На глебах сухіх канаплі ня родзяць. Знача, канаплямі можна вельмі ўдачна засяваць тыя мясцы, дзе ня родзіць бульба. Акрамя таго канаплі любяць месца зацішнае; на мясцох-жа выстаўленых на вецер яны хоць і растуць, то даюць аднак горшае валакно.

Вельмі важнай для канапель ёсьць справа глыбкі глебы: чым яна глыбей перапрацавана, тым лепш. У Італіі, дзе вырабляюць найлепшае канаплянае валакно, глебу перапрацоўвуюць аж на 1 мэтр углыбку. Натуральна, глыбокая ворка патрэбна ўвосені, і на вясну можна выйсьці на такую глебу толькі з культыватарам і бараной.

Канаплі вельмі любяць вялікія порцыі хлеўнага гною. З штучных угнаеньняў канаплі найбольш патрабуюць угнаеньняў азотных. З натуральных-жа гнаёў пад канаплі вельмі надаецца гной птушыны і авечы.

З сяўбой канапель сьпяшацца вельмі ня трэба, бо хоць яны і прарастаюць ужо пры 2°C, то аднак вельмі чуткія на прымаразкі. Дзеля таго ў нашых варунках сеяць іх раней першых дзён чэрвеня — рызыкоўна. Сеюць канаплі на шырока (з рукі) і ў радкі з сеялкі. Сяўба ў радкі тым лепшая, што лепш пазваляе і ўспульхняць зямлю. Канаплі растуць даволі хутка і самі лёгка даюць сабе раду з розным пустазельлем. Калі аднак канаплі гадуюцца на насеньне, дык іх трэба сеяць радзей і палоць: тут вельмі аблягчае работу сяўба ў радкі, якая пазваляе палоць пры помачы матыкі і рознай адумысловай снасьці.

Гадуюць канаплі на валакно, на насеньне або на валакно і на насеньне адначасна. Калі сеяць у радкі, адзін ад другога на 10—18 см., дык на гэктар трэба насеньне 60—80 клг.; пры радкох у 10 см., на гэктар высейваецца ад 120 да 160 клг.; пры засейваньні канапель на насеньне робяцца радкі што 40—50 см. і тады на гэктар высейваецца каля 30 клг.

Канаплі не апыляюцца сваім собскім пылком. Таму пры гадаваньні іх на насеньне трэба сьцерагчы, каб не скрыжаваліся (не заплодніліся) з чужым гатункам. Адны расьліны канапель бываюць роду мужчынскага (пласкуны), а другія жаноцкага. Расьліны мужчынскія дасьпяваюць хутчэй, дзеля таго трэба гэтыя расьліны прыбіраць з поля пасьля адцьвітаньня, прынамся на месяц раней перад часам звычайнага збору. Памагае гэта пры атрыманьні лепшага валакна

Галоўны збор канапель прыпадае на другую палавіну верасьня. Канаплі пры гэтым трэба жаць, а ня вырываць, калі хочам валакно пусьціць у продаж. Пажатыя канаплі ўкладаюцца спачатку малымі жменькамі на аржышчы і пасьля толькі вяжуцца ў малыя снапкі. Перавяслам служыць пры гэтым адно каліва самых-жа канапель. Калі канаплі вельмі доўгія, дык снапкі іхнія трэба перавязываць у двух мясцох. Саламяных перавяслаў ня трэба ўжываць, бо пасьля салому трудна аддзяліць ад канаплянага валакна... Канапляныя снапкі састаўляюцца на полі ў копкі („лялькі“). Прад гэтым аднак трэба абсмаргаць усё лісьцё і пакінуць сушыцца самыя канапляныя сьцёблы.

З 1 га зьбіраюць ад 25 да 75q сьцёблаў і ад 5 да 12q насеньня.

Вельмі цікавай ёсьць рэчай, што канаплі бароняць іншыя расьліны ад некаторых шкоднікаў. Гэтак напр. калі капусту наўкруг абсеяць канаплямі, дык на такую капусту не нападае ані гусеніца, ані сам белы матыль. Таксама бароняць канаплі і бобік ад мшыцаў: канаплі абсейваюцца кругом, а калі поле мае большы абшар, дык дасейваюцца яшчэ палоскі і ўсярэдзіне. Чым гэта тлумачыць,—дагэтуль няведама. Самі канаплі даволі адпорныя супроць розных шкоднікаў; бязмоцныя яны толькі проціў вераб'ёў, якія вельмі любяць канапліныя зярняты: — трэба іх пільнаваць і праганяць, бо страты ад гэтага могуць быць вельмі вялікія.

*Паз.*

*Kutok dla haspadyniaŭ*

## Pałoć ci pačakać?

Na dobry ład užo samo heta pytańnie źjaŭlajecca paśviedčańniem haspadarskaj adstałaści. Ale niama rady i treba ab hetym pahavaryć šyrej. Bo skroś i zaŭsiody spatykajemsia navat z takim pytańniem: ci pustazielle sapraŭdy jość škodnym?

Pytańnie heta staviać asabliva tady, kali prychodzicca źbirać travu dla žyvioły. Kažuć tady: „kab nia było travy ŭ harodzie, dyk nia było-b čym i padkarmlivać žyvinu“. — Ci-ž heta sapraŭdy tak jość?

Što ŭ haspadarcy patrebna trava, jak paša, ab hetym nichto sprečacca nia budzie. Tolki ci rastučaje ŭ aharodzie pustazielle takoj pašaj sapraŭdy jość? A kali nie, dyk skul takuju pašu brać?

Prosta j vyrazna treba skazać, što pustazielle pašaj nia jość. A kali zhaładałaja žyvina jaho i ješć, dyk 1. robić heta tolki z „hoładu“(!), a 2. haspadaru takaja paša jość tak darahoj, jak darahoju i prosta niebiaśpiečnaj jość pazyka ŭ viaskovaha lichviara. Tamu na pašu dla žyvioły treba siejać takija pašnyja raśliny, jak usiakija miešanki, kaniušyna, karmovaja morchva i burak, a pustazielle treba niamiłaserna niščyć, jak u aharodzie, tak i na poli.

Ale j heta jašče nia ŭsio. Kožny, chto bačyć zazielanieŭšaje pustazielle, pryznaje, što pałoć jaho ŭsio-ž treba. A voś tolki kali heta rabić? Ci tady, kali ŭžo ŭsio bujna razraściecca i jaho možna rvać poŭnymi pryharšniami, ci da hetaha rastańnia dapuskać nia možna?

Na heta adkaz moža być tolki adzin: **pałoć treba zrazu, jak tolki z ziamli pakažucca pieršyja listočki.** Hetak tolki možna nie dapuścić da strataŭ cennych žyvinaŭ u hlebie i dać miesca dla raźvićcia ŭ hetaj-ža hlebie raśiinam kulturnym. A aprača taho hetkim rańnim pielivam najlepš baronim hlebu ad zaśmiečanaści daśpiavajučym zierniem pustaziella i razrastajučym jahonym kareńniem.

**Pryłady da pieliva i ŭspulchniańnia ziamli.**



Łapki „Narkros“.



Płužok.

Za pielivam tolki što abvjšoŭšaha pustaziella pramaŭlaje ŭsio, akramia chiba samoj tolki pracy: lahčej rvać travu poŭnaj žmieniaj, čymsia z trudom vyłaŭlivać dvuma palcami tolki prarosšyja listočki. Ale j heta trudnaść dajecca lohka pieramahčy, kali pačać urešcie pałoć nia hołymi palcami, ale žaleznymi łapkami, roznymi matykami ci—urešcie—asobnymi ručnymi płužkami. Kožnaja z hetaje snaści nia tolki vyryvaje z ziamli prarosšaje pustazielle, jakoje paśla vysychaje i hinie, ale tak-ža kryšyć skarynku i ŭspulchniaje zaskarupiełuju ziamlu. Kali da ŭsiaho hetaha dadać, što sama praca pieliva pry pomačy vyšejnazvanaj snaści jość daloka lahčejšaj — aščadžajucca ruki i nia treba horbicca — dyk lohka pryjšci da vysnaŭku, što ŭsiakaje pustazielle treba vypołvać adrazu, jak tolki pakažycca z ziamli dy što na łakoje pieliva nia možna jšci z hołymi rukami, a abaviazkava tolki z takoju snaściu, jak łapki, matyki i płužki.

*Грамадзяне Беларусы! Вучыце сваіх дзетак беларускай граматы! Дамагайцеся сваіх беларускіх школаў!*

# Гаспадарская хроніка.

**Дзень коопэрацыі** ў Польшчы пастаноўлена сёлета сьвяткаваць у нядзелю 13 чэрвеня.

**Коні для войска** будуць купляць на выстаўцы коняў 13 і 14 ліпня сёл. ў Ашмяне і 15 і 16 ліпня — ў Лідзе. Патрэбны валахі і кабылы ад 3 да 6 гадоў. На выстаўку гэту могуць даваць свае коні толькі тыя гаспадары, якія найменш 6 месяцаў ужо зьяўляюцца сябрамі Гуртка („коло“) Гадаўцоў Коняў і якія найпазьней да 12 чэрвеня у 7 гадз. веч. запішаць свае коні ў выставачны каталёг. З гэтай мэтай будуць прыгатаваўчыя пераглядзы коняў у гэткім парадку:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| у Маладэчне | 24 | мая | гадз. | 10, |
| у Тургелях | 25 | „ | „ | 10, |
| у Беняконях | 26 | „ | „ | 9, |
| у Лідзе | 28 | „ | „ | 10, |
| у Радуні | 29 | „ | „ | 10, |
| у Багданаве | 31 | „ | „ | 12, |
| у Шчучыне | 3 | чэрвеня | „ | 12, |
| у Скрыбаўцах | 4 | „ | „ | 8, |
| у Васілішках | 5 | „ | „ | 8, |
| у Дзятлаве | 7 | „ | „ | 11, |
| у Наваградку | 8 | „ | „ | 8, |
| у Лынтупах | 9 | „ | „ | 8, |
| у Сьвіры | 10 | „ | „ | 9, |
| у Ашмяне | 11 | „ | „ | 10, |
| у Смургонях | 12 | „ | „ | 8, |

**Гідробіолёгічная станцыя** ў Пінску будзе будавана ў хуткім часе. Заданьнем гэтай станцыі будзе вывучэньне водаў Палесься у тым сэнсе, на колькі можна выкарыстаць іхнюю энэргію, на колькі яны прыгодны для жывых арганізмаў (рыбаў) і які характар маюць руслы і дно асобных рэк.

**Цэны на мыла.** Ад 1 мая ва ўсей Польшчы абавязваюць гэткія новыя цэны на мыла: мыла гэтак званае „марковае“ (якое мае выразную сваю марку ці фірму), як „Шіхт,“ „Рэвольвэр Майдэ,“ „Сполэм“ і інш. падобныя цэняцца па 1 зл. 50 гр. за кілё без апакаваньня; мыла цямнейшае, бяз „маркі“ — 1 зл. 25 гр. за кілё і ўрэшце мыла бела-сіняе ці „Мармур“ — 1 зл. за кілё.

**З Кабыльніка на Нарач** чыгуначная лінія ўжо выканчываецца. Афіцыяльнае адчыненьне гэтай лініі прадбачыцца ў м-цы ліпні сёл.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *24.V.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . | 24.50—24.75 |
| Пшаніца . . . . . | 31.00—32.25 |
| Ячмень . . . . . . | 21.00—22.00 |
| Авёс . . . . . . | 21.50—23.00 |
| Грачыха . . . . . | 27.75—28.25 |
| Лён трапаны (1.000 кілё) | 1.820—1.880 |
| Лён часаны . . . . | 2.080—2.120 |
| Кудзеля . . . . . | 1.700—1.740 |

# Што чуваць на сьвеце

## Укаранавалі караля.

12 мая ў Лёндыне адбылася ўрачыстая каранацыя новага караля Англіі Юрага VI. На гэту каранацыю езьдзіла адусюль шмат людзей. Рахуюць, што на ўрачыстаць гэту прыглядалася каля 6 мільёнаў чалавек. — Пры месцы трэба зазначыць, што ў самым Лёндыне жыве больш 8 мільёнаў людзей, ды што папярэднік сучаснага караля Юрага VI-га, Эдуард VIII мы, калі яму забаранілі ажаніцца з кабетай (двойчы разьведзеная) некаралеўскага роду, дык зрокся лепш трону і выехаў заграніцу. Ня менш характэрна так жа й тое, што падчас калі ў Лёндыне адбывалася каранацыя Юрага VI на „караля Ірляндыі“, у сталіцы Ірляндыі, Дубліне, адбываліся бурныя процў гэтага дэманстрацыі. Памятнік ангіцкага караля Юрага II пры гэтым быў узарваны загадзя заложанай „пякельнай машынай“.

## Далей „чысьцяць“.

„Тасс“ паведамляе: пастановай ураду прызнана за канешнае ў ваенных акругох СССР утварыць Ваенныя Саветы, а ў ваенных аддзелах, урадах і інстытуцыях чырвонай арміі — ваенных камісараў.

Маршал Егораў назначаны пры гэтым намесьнікам народнага камісара абароны, а маршал Тухачэўскі перанесены на становішча камандзера надволжанскага ваеннага вокругу. Шэфам штабу чырвонай арміі назначаны камандзер І-ай рангі Шапашнікаў.

Усе гэтыя новатворы і ператасоўкі ў палітычных кругох ацэньваюцца як узмацненьне ў чырвонай арміі ўплываў камуністычнай партыі ды паварот да скасаваных у 1934 г., пасьля ўтварэньня народнага камісарыяту абароны, інстытуцыяў ваенных камісараў і Рэвваенсаветаў. — Многа домыслаў такжа ходзіць каля выразна здэградаванага маршала Тухачэўскага: некаторыя нават раўнуюць ягоны лёс з лёсам... Ягоды, каторы прад аканчальным упадкам быў перанесены на трэцяраднае становішча камісара пошт і тэлеграфаў... А можа гэта толькі чыёсьці жаданьне?..

Апошнім часам пайшлі пагаласкі, што Тухачэўскі меўся нават уцячы заграніцу і таму быццам у апошні мамэнт ня пусьцілі яго ў Лёндын на каранацыйныя ўрачыстасьці.

## Перабралі і аддаюць.

Польскі П.А.Т. паўтарае за спэцыяльным карэспандэнтам маскоўскай „Экономической Жизни“ гэткую характэрную вестку:

У Слуцкім вокрузе скарбовыя савецкія ўлады сканфіскавалі за падаткі 816 прыватных гаспадарак, з каторых 459 было вернена як яўна бясправўных. Кіраўнік мясцовага фінансавага аддзелу тлумачыўся, што вышэйшыя ўлады рабілі на яго нацiск, каб „фінансавы плян быў выкананы“. „Эконом. Жизнь“ цьвердзіць, што скарбовыя ўлады на Беларусі былі „засьмечаны“ апазыцыяністамі.

## Жыды на Мадагаскар.

Праект перасяленьня часьці жыхараў Польшчы, перадусім жыдоў, на паўдзённа-афрыканскую выспу Мадагаскар, паважна разглядаецца спэцыяльнай камісіяй з Польшчы. Выспа гэта знаходзіцца пад уладай Францыі. Ёсьць там капальні золата і графіту, але Францыя хоча туды пасылаць толькі тых людзей, якія ўмеюць працаваць як земляробы.

## З Ірляндыі — Айрэ.

Ірляндыя — данядаўна складовая частка Англіцкай кароны — ўсё больш ад яе ўнезалежняецца, умела выкарыстоўваючы дзеля гэтага кожнае здарэньне. Гэтак у пару, калі ўся Англія была занята прыгатаваньнем да каранацыі, Ірляндыя аб'явіла тэкст новай канстытуцыі, якая пачне абавязываць цераз паўгоду, пасьля правядзеньня ўсенароднага галасаваньня. Паводле гэтай канстытуцыі, Ірляндыя становіцца зусім незалежнай дзяржавай, адкідаючы нават накіненае ёй англічанамі імя „Ірляндыя“ і заменяючы яго старакельцкім Айрэ.

## Гішпанская вайна.

Абедзьвюм старонам вайна відавочна ўжо „прыелася“: сухапутныя спатычкі бываюць рэдкія, часьцей толькі лятаюць аэрапляны і кідаюць бомбы. — Баскі, паміма перавамажаючых „паўстанцкіх“ сіл, моцна тымчасам трымаюцца — Штораз больш чуваць, што быццам вядуцца перагаворы аб заканчэньні вайны.

## „Другі Нясьвіж“.

У Нясьвіжы калісьці маршал Пілсудзкі пагадзіў абшарнікаў з „дэмократамі“. Утварылася тады партыя „Бэбэ“.—Анагдашняе гасьцяваньне марш. Сьміглага ў эндэцкай корпарацыі „Арконія“ ў Варшаве польскія газэты называюць „другім Нясьвіжам“, бо бачуць у гэтым спробу ўрадавых кругоў дагаварыцца з эндэкамі: можа так, а можа й ня так...

# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Беларускі Нацыянальны Камітэт правёў ужо абнову на 1937-38 г. Новы склад прэзыдыуму, выбранага на сходзе дня 21.V.37, прадстаўляецца гэтак: Інж. Ад. Клімовіч — старшыня, Адвакат Ф. Стэцкевіч і Др. Ст. Грынкевіч — віцэ-старшыні, М. Манцэвіч — скарбнік і рэд. Я. Пазьняк — сэкрэтар.

— Суд у справе 1-га спыненьня „Бел. Крыніцы“, які з апэляцыі пракурора меўся адбыцца ў Віленскім Акружным Судзе дня 25 г. м., адложаны да разгляду гэтага-ж самага суду ў поўным (трохасабовым) складзе.

— Ксяндзу Станкевічу ніводнага дакуманту, забранага ў яго падчас рэвізіі 28.XI.1936 г., не аддадуць. Аб гэтым заявілі яму анагдай у сьледчай паліцыі. Які абарот прыйме гэта справа далей, тымчасам няведама.

— Канцэрт М. Забэйды і Беларускага Хору пад кіраўніцтвам Р. Шырмы ў перапоўненай унівэрсытэцкай залі адбыўся вельмі ўдачна 16 г. м. Разэнтузьязмаваная публіка засыпала артыста незмаўкаючымі воплескамі і дажджом жывых кветак. Беларускі Студэнцкі Саюз акрамя таго абдараваў артыста беларускімі тканінамі, на аднэй з якіх відаць быў надпіс: „М. ЗАБЭЙДЗЕ — за беларускую песьню — БСС, Вільня, 16.5.37“.

— У Кальварыю сёлета пойдзе беларуская пілігрымка з касьцёла сьв. Мікалая 6 чэрвеня а гадз. 7 рана. Усякія інфармацыі аб пілігрымцы дае рэдакцыя „Chryśc. Dumki“: Вільня, Завальная 1. Там-жа і зборны пункт для пешаходаў і фурманак.

— Куратар ці ліквідатар? Асоб, якія былі ў выканаўчых органах спыненых беларускіх арганізацый: Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускай Школы, адведаў 12.V. студэнт М. Белятка, заяўляючы, што адміністрацыйныя ўлады даручылі яму быццам апекавацца маемасьцю гэтых арганізацый. Дзеля таго, што студ. М. Белятка — гадунец б. корпарацыі „Скарынія“, а цяпер сябра ўраду падобнага-ж „Stowarzyszenia Akademików Ziem Północno-Wschodnich“— ня меў з сабой ніякіх упоўнаважваючых дакумантаў, дык да выконываньня сваіх абавязкаў тымчасам яшчэ ня прыступіў. А калі прыступіць, дык таксама няведама.

— З выдавецтва. „Калосьсе“, літаратурна-навуковы квартальнік, кніжка 2(11): Вільня, Завальная 1.

— „Zasieŭki“ — biełaruski lemantar dla chatniaha navučańnia. Гэта ёсьць ужо другі беларускі лемантар, напісаны ведамым беларускім пэдагогам С. Паўловічам. Лемантар гэты прызначаны для хатняга навучаньня лацінскім („польскім“) пісьмом. У канцы кніжкі знаёмяцца вучні і з азбукай беларускай („гражданкай“). Кніжку выдаў „Белпрэс“, бачын 88, Вільня 1937 г. Цана кніжкі 50 грашоў (без перасылкі). Перасылка аднэй кніжкі 25 грашоў. Галоўны склад у беларускай кнігарні „Пагоня“: Вільня, Завальная 1.

— Беларуская песьня пайшла ўжо ў сьвет, на грамафонных плітках, якія насьпяваў ведамы артыст-сьпявак Міхал Забэйда-Суміцкі ў фірме „Одэон“. Насьпяваныя тымчасам 10 беларускіх песьняў на 5 плітках у гэткім парадку:

1) № 271378a: Як памёрла матулька.
„ b: Рабіна.
2) № 271379a: Малады дубочак.
„ b: Чаму-ж мне ня пець.
3) № 271380a: Ой рана, рана, куры запелі.
„ b: Ляціць сарока.
4) № 271381a: Шчука-рыба ў моры.
„ b: Конь бяжыць.
5) № 271382a: Лявоніха.
„ b: А ў лесе, лесе.

Усе гэтыя пліткі можна атрымаць праз кожны магазын музыкальных інструмантаў (у дэталю па 3 зл. 20 гр. за плітку), а дзе такога няма, дык проста з фірмы: „Odeon“, Warszawa, ul. Płocka 13.

— Матуральныя экзаміны ў Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні кончыліся ў суботу 22 г. м. Да экзаміну было дапушчана 29 чалавек, здало 26 чалавек.

## З нашых сёлаў і мястэчак.

— Проціўжыдоўскія разрухі ў Берасьці. 13 г. м ў Берасьці былі вялікія проціўжыдоўскія разрухі. Панішчана пры гэтым шмат жыдоўскіх крамаў і дамоў. Асабліва вялікія спусташэньні парабілі пазнанскія работнікі, якія на вестку аб разрухах пакінулі работу ў берасьцейскай крэпасьці і масава ўліліся ў расхваляваную вуліцу. Польскія газэты пішуць, што забурэньні паўсталі ад таго, што жыд-мясьнік зарубаў тайнага паліцыянта, які шукаў у яго нештэмпляванага мяса. А як там было ў сапраўднасьці павінна выказаць сьледзтва. У сувязі з гэтым арыштавана ў Берасьці 210 чалавек (у тым ліку 7 жыдоў).

— Ахарона прыроды ў Віленшчыне. З наказу Віленскага ваяводзтва, закон аб ахароне прыроды і забыткаў гістарычнай старасьвеччыны мае абавязваць: 1. астачу топальнай алеі і старых дрэў, што асталіся з парку двара ў Маладэчне; 2. парк у дварэ Вішнеўскім (Вялейскім пав.) і фундамэнты дому, дзе радзіўся і гадаваўся ведамы композытар М. Карловіч; 3. краеабраз і распляваньне вуліц і кварталаў г. Трокі. —Наваградзкае ваяводзтва наказала берагчы як забытак гістарычнай старасьвеччыны гару Міндаўга ў Наваградку.

— Пропускі. Ад 15 г. м. кожны, хто хоча выехаць ці пайсьці ў надгранічную паласу („strefa nadgraniczna“), павінен мець пропуск ад старасты таго павету, дзе заінтэрэсаваны стала жыве. Просьбы аб пропуск трэба падаваць у староства на колькінаццаць дзён наперад. — Гэрбавых марак („стэмплёвых“) на гэткіх просьбах наклейваць ня трэба.

— Бяз белай мукі. Ад 9 мая ня можна прадаваць жытняй мукі бялейшай як 70 прац. і ад 14 мая ня можна прадаваць пшанічнай мукі бялейшай як 65 прац. Гэта забарона важная тымчасам аж да новых ураджаяў.

— Пажар у Мёрах, Дзісьненскага пав. зьнішчыў каля 80 будынкаў. Страты даходзяць да 400 тыс. зл.

— Акружны Суд з Наваградку мае быць перанесены ў Баранавічы.

## У Літоўцаў.

— Ў Т-ве „Культура“ адбыўся гадавы справаздаўчы сход сяброў. На новы год працы выбраны новы ўрад. Старшынёй Т-ва выбраны грам. А. Крутуліс.

— Пілігрымка ў Кальварыю літоўцаў Віленскіх і з ваколіц адбылася ў нядзелю 16 г. м. Было так многа людзей, што нават „Dziennik Wileński“ пазайздраваў і мала не хапала, каб пацкаваў... Такая ўжо ягоная „каталіцкая“ натура.

## У Палякоў.

— Суд. 19 г. м. у Кракаве пачаўся суд проціў 49 эндэкаў, якія летась улетку, на чале з інж. А. Добошынскім, напалі на староства, паліцыю і жыдоўскія крамы ў прыгранічным з Чэхаславаччынай горадзе Мысьленіцы. Суд мае трываць праз тры тыдні. Суд над самым Добошынскім вызначаны на 10 чэрвеня.

— Арышты на Памор'і. У Тухальскім павеце на Памор'і паліцыя арыштавала 15 чалавек немцаў, западозраных у тым, што пад відам „Службы Працы“ ў „Нямецкім аб'еднаньні“ прапагавалі быццам вайсковае прыспасабленьне нямецкай моладзі.

— Проціў жыдоў. Зьезд польскіх адвакатаў у Варшаве 9 г. м. прыняў пастанову, у якой дамагаецца агранічэньня доступу жыдоў у адвакатуру. Яшчэ далей пайшлі польскія лекары, якія на зьезьдзе 9 г. м. пастанавілі проста ня прыймаць жыдоў у „Саюз Лекараў Польшчы“. І адвакаты і лекары свае пастановы апраўдываюць матывамі патрыятычнымі. А ў сапраўднасьці, як зазначаюць іншыя, усе яны толькі баяцца за свае кішэні, бо жыды з імі добра канкуруюць.

## У Украінцаў.

— Наталку-Полтавку — ведамую і ў нас украінскую опэрэтку — ў Канадзе накруцілі як музычны фільм, сьпяваны паукраінску. Амэрыканская крытыка адазвалася аб гэтым першым украінскім фільме вельмі пахвальна. Украінцы галіцкія і валынскія стараюцца пачуць гэты фільм і ў сябе дома.

— Купецкая гімназія украінская ў Львове ад восені сёлета мае быць сарганізавана на месцы дагэтуляшняй Гандлёвай Школы Т-ва „Рідна Школа“.

## З ВІЛЬНІ.

— Эндэцыя ўзноў жыве. Спыненая („завешаная“) загадам Віленскага ваяводы з дня 23 сакавіка сёл. дзейнасьць польскай эндэцкай партыі ў Вільні і Вілтроцкім павеце, ад 12 г. м. ўзноў аджыла. Ад часу спыненьня дзейнасьці эндэцыі прыціхлі былі ў Вільні кіданыя перш пэтарды; каб-жа яны ўзноў не паўтарыліся.

— Ганаровы дактарат мэдыцыны Віленскага Унівэрсытэту дня 20 г. м. атрымаў маршал Сьміглы-Рыдз.

— Рэктарам Віленскага Унівэрсытэту выбраны Кс. Др. А. Вуйціцкі, прафэсар хрысьціянскай соцыолёгіі на аддзеле тэолёгіі.

## Усячына.

— Паўстаньне ў Альбаніі было выбухла 15 г. м., але хутка было пераможана. Дагадваюцца, што паўстаньне гэта было кіравана камуністамі.

— „Гіндэнбург“ — найбольшы нямецкі паветраны карабель (сыстэмы „Цэпэлін“) 7 г. м. разьбіўся пры апусканьні на зямлю ў Нью-Іорку (Амэрыка). Страціла пры гэтым жыцьцё 34 чалавекі.

— Д-р Брюнінг, б. канцлер Нямеччыны, якога гітлераўцы ўважаюць за свайго непераможнага ворага, ад восені сёл. пачынае чытаць лекцыі з галіны грамадзкіх і палітычных навук у найстарэйшым амэрыканскім унівэрсытэце ў Гаруорд.

„Самапомач“ выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“